Тэлепраграма з 25 па 31 снежня

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**№ 101 (4250)**

22 снежня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

100 РАДКОЎ МІХАСЯ СКОБЛЫ



## Хто баіцца, у таго ўваччу дваіцца

Прызнацца, я такога не чакаў – штодзень пошта прыносіць у рэдакцыю "Народнай Волі" стос лістоў. Пераважна праблемных – людзі пішуць пра ўсё большую кватэрную плату, якую ледзь-ледзь удаецца наскрэбці з мізэрнай пенсіі, пра адсутнасць дзіцячых пляцовак у дварах і непрыхаваныя "каруселі" на выбарчых участках, пра несправядлівасць судовых выракаў і абмен пашпартоў…

Здавалася б, ёсць выканкамы, сельсаветы і жэсы, дзе наведнікаў ледзь не з хлебам-соллю павінна сустракаць "адно акно" і г.д. Але многія людзі ўсё роўна звяртаюцца ў газету, для іх "Народная Воля" – і выканкам, і сельсавет, і жэс, і загс, і бюро даведак, і адразу штук пяць міністэрстваў.

Вось і нядаўна рэдакцыя атрымала ліст ад адной пенсіянеркі. Пенсіі на пражыццё не хапала, і яна, падшукаўшы кватарантаў, пераехала са сваёй аднапакаёўкі да дачкі. Прычым камунальныя плацяжы засталіся за гаспадыняй. Якое ж было яе здзіўленне, калі ў чарговай плацежцы яна пабачыла суму 390 рублёў – калі нават усю пенсію аддаць, дык і то не хопіць. Жанчына звярнулася ў разлікова-даведачны цэнтр, дзе ёй патлумачылі, што паводле прынятага нядаўна закона за ацяпленне здаванай унаймы кватэры бярэцца плата ў шасцікратным (!) памеры. Такім чынам атрымалася як у той прыказцы: што зарабіў, тое і сцерабіў.

Здавалася б, пенсіянерка – не прадпрымальнік-спрытнюга, які ў розны час панабудоўваў кватэр і цяпер загарае круглы год на Канарах, атрымліваючы прыбыткі ад арандатараў. Жанчына здала сваю адзіную кватэру, каб выжыць. Каб мець нейкі дадатак да пенсіі ды не вохкаць над цэннікамі ў краме і аптэцы. Але для дзяржавы няма розніцы, домаўласнік вы ці нямоглы пенсіянер. З усіх спагнанне аднолькавае. Як кажуць у народзе, хто арэ, хто баранує – усіх доля параўнуе. Каб жа доля параўняла і пенсіі – тых, хто сёння ледзь выжывае, і тых, хто такія разумныя законы прымае! Тут, відаць, мы ўраўнілаўкі не прычакаем ніколі.

Але найбольш мяне ўразіў у лісце пенсіянеркі подпіс. Дакладней, яго адсутнасць: "*Адраса не пішу і прозвішча таксама. Баюся. Н.І.*" І вось гэтае *"баюся"* гучыць як дыягназ. Каго і чаго вы баіцеся, шаноўная Н.І.? Таго разлікова-даведачнага цэнтра, які прысылае вам плацежкі? Суседкі, якая, пазайздросціўшы вашаму прыработку, паб'е вокны ў здаванай кватэры? Рэдактара "Народнай Волі", да якога вы тым не менш звяртаецеся як да апошняй інстанцыі?

Дарэчы, не толькі пенсіянерка Н.І. з-за незразумелай боязі даслала нам фактычна ананімку. Бязадрасныя і бясподпісныя лісты ў рэдакцыйнай пошце – не рэдкасць. А раптам, а хтосьці, а штосьці, а камусьці…

Мы сталі баяцца ўсяго. Мы баімся праслухоўвання – я ледзь не штодня чую ў слухаўцы: "Гэта не тэлефонная размова". Мы баімся скарыстацца дадзеным нам канстытуцыйным правам размаўляць па-беларуску паўсюль, у тым ліку ў рознага кшталту дзяржустановах. Мы баімся самага дробнага начальніка, не кажучы ўжо пра начальніка вярхоўнага, якога гатовы надзяліць непагрэшнасцю Папы Рымскага, калі ён выступае ex cathedra. Мы баімся прызнацца сабе, што мы – баязлівыя. За сем прамінулых гадоў я прачытаў дзясяткі тэкстаў пра гераічную Плошчу-2010, пра тое, як "дзясяткі тысяч пратэстоўцаў выйшлі, не пабаяліся" і г.д. Насамрэч усе тыя тысячы замаўчалі, калі пачаліся суды над найбольш актыўнымі…

Можна патлумачыць назапашаны ў нашай крыві страх стагоддзямі падняволенага існавання, 1937-м годам, які пакінуў на нашай зямлі вечны напамін пра сябе – Курапаты. Рацыя тут ёсць. Але як чалавек мусіць па кроплі выціскаць з сябе раба, так і мы павінны выціскаць з сябе ген страху. Бо ён мае здольнасць самаразмнажацца ў нашай запалоханай душы. Як тая бяскрыўдная снежка, што калілася з гары і неўзабаве бязлітаснай лавінай накрыла цэлую вёску.

Нядаўна я ўключыў БТ і пабачыў на экране знаёмага пісьменніка, які без відавочных падказак вядоўцы, самахоць расказваў пра тое, як сітуацыя дзвюхмоўя спрыяе росквіту беларускай літаратуры, якая, дзякуючы клопату дзяржавы, існуе ледзь не ў аранжарэйных умовах. Праз два дні сустрэў таго знаёмца ў сталічнай кнігарні "Светач". Моўчкі ўзяў яго за рукаў і завёў у закутак, дзе стаялі некалькі стэлажоў з беларускімі кнігамі – у атачэнні сотняў (!) стэлажоў з рускамоўнай літаратурай. "Гэта росквіт?" – пытаюся. "Што ты ад мяне хочаш, я ж працую ў дзяржустанове".

Дзяржслужба стала ў нас апраўданнем хлусні. Так атрымліваецца.

У Максіма Гарэцкага ёсць апавяданне пад назвай "Дурны настаўнік". Там настаўніка-атэіста вясковыя падшыванцы дражняць: "Плюнь на царкву – дам бублік". І той пляваў, і атрымліваў "бублік". Сёння падобных "настаўнікаў", якія з-за боязі не атрымаць свой "бублік" гатовы назваць чорнае белым, а рыдлёўку далакопа – рыштункам клапатлівага садоўніка, у нас хоць адбаўляй.

У 1942 годзе ў пражскую кватэру Ларысы Геніюш заявіліся два нямецкія афіцэры і прапанавалі propagande machen (рабіць прапаганду). Паэтка рашуча выгнала іх прэч, рызыкуючы трапіць у канцлагер. Чым сёння рызыкуюць "майстры пяра" на дзяржслужбе? Дабрабытам? Месцам у чарзе да варштата Скарыны? Пагадзіцеся, Асвенцым і квартальная прэмія – рэчы несувымерныя.

Прырода беларускага страху выдатна паказана ў аповесці Уладзіміра Караткевіча "Дзікае паляванне караля Стаха" (невыпадкова *Стах* і *страх* успрымаюцца як словы-блізняты, як сэнсавыя сінонімы). Памятаеце – палац Яноўскіх пасярод балота (мы ж – людзі на балоце), з якога па начах прыходзіць дзікае паляванне. І ўся ваколіца да здранцвення запалохана тым Стахам-страхам. Але нездарма кажуць: хто баіцца, у таго ўваччу дваіцца. Насамрэч, грозная кавалькада таго палявання аказалася зборняй пудзілаў, якімі ўмела маніпуляваў адзін (сам баязлівы) чалавек.

Тое дзікае паляванне скача па Беларусі і дагэтуль. Дзесьці дарогу яму мосціць улада (застрашанымі кіраваць прасцей), але часцей тыя збуцвелыя пудзілы "падсаджваем на коней" мы самі. Каб потым чуць пад вокнамі страхотлівы тупат і прасіць дапамогі – ці то ў нейкага сучаснага бясстрашнага пана Беларэцкага, ці то ў рэдакцыі "Народнай Волі", ці то ў Дзеда Мароза, які стукне аб падлогу чарадзейным посахам – і растануць сняжынкамі на шыбе ўсе нашы праблемы.

Не растануць. Трэба самім навучыцца іх вырашаць – без боязі і спадзявання на памочніка-збаўцу. Паўтараючы, як прышчэпку ад страху, народную мудрасць: хто баіцца, у таго ўваччу дваіцца.

СРАВНИМ!

## Белорусский Geely или?..

Один из белорусских дилеров компания «Лакшери Моторс плюс» озвучила цены на флагманский автомобиль Geely Atlas белорусской сборки. Как рассказал директор компании **Павел Садовников**, новый автомобиль в базовой комплектации Standart будет стоить 35.200 рублей, в комплектации Comfort – 39.700 рублей, в топовой комплектации Flagship – 52.600 рублей.

Ресурс Naviny.by сравнил цены на белорусское авто с ценами конкурентов.




ПАЗІЦЫЯ

## Беларусь галасавала супраць рэзалюцыі ААН па сітуацыі з правамі чалавека ў Крыме

Генеральная Асамблея ААН 19 снежня прыняла рэзалюцыю "Сітуацыя з правамі чалавека ў акупаванай Аўтаномнай Рэспубліцы Крым і горадзе Севастопаль (Украіна)". За яе прагаласавалі 70 краін, супраць – 26, устрымаліся – 76. Супраць рэзалюцыі галасавалі Беларусь, Бурундзі, Балівія, Сірыя, Зімбабвэ, Венесуэла і іншыя краіны, піша Радыё Свабода.

У дакуменце ўтрымліваецца патрабаванне да Расіі выканаць часовыя меры рэкамендацый Міжнароднага суда ААН: адмяніць забарону на дзейнасць Меджліса крымскататарскага народа і забяспечыць магчымасць навучання на ўкраінскай і крымскататарскай мовах у Крыме.

Міжнародныя арганізацыі прызналі анексію Крыма незаконнай і асудзілі дзеянні Расіі. Краіны Захаду ўвялі шэраг эканамічных санкцый.

Расія адмаўляе акупацыю паўвострава і называе гэта «аднаўленнем гістарычнай справядлівасці».

АФІЦЫЙНА

## «Беларусь заўсёды супраць любых краінавых рэзалюцый»

Як вядома, дэпутат Вярхоўнай Рады Рэфат Чубараў пасля галасавання Генеральнай Асамблеі ААН па рэзалюцыі "Сітуацыя з правамі чалавека ў акупаванай Аўтаномнай Рэспубліцы Крым і горадзе Севастопаль (Украіна)" прапанаваў пашукаць замену Мінску ў перамовах па сітуацыі ва Украіне. Раней з крытыкай пазіцыі Беларусі выступіла прадстаўнік Украіны ў гуманітарнай падгрупе Ірына Герашчанка.

Начальнік аддзела прэс-службы МЗС Беларусі **Андрэй Шупляк** пракаментаваў заяву ўкраінскіх палітыкаў аб галасаванні Беларусі:

– Беларусь заўсёды галасавала супраць любых краінавых рэзалюцый. Гэта наша прынцыповая пазіцыя. Мы на ўласным вопыце ведаем, што такое спробы штучнай палітызацыі, раздзімання праблем, якіх рэальна няма ў грамадстве і дзяржаве. Больш за тое, мы лічым, што Генеральная Асамблея ААН не месца для абмеркавання і прыняцця падобных краінавых дакументаў.

Менавіта таму мы ў свой час прапанавалі ўвогуле зняць з галасавання ў ААН увесь пакет краінавых рэзалюцый. На жаль, гэтая прапанова не прайшла, і ў дадатак да ўсяго мы падпалі пад астракізм з боку некаторых уладных асоб.

Галасаванне супраць краінавых рэзалюцый не ёсць сведчанне нячуласці Беларусі да заклапочанасці іх ініцыятараў. Наша галасаванне супраць гэтага інструмента – спроба прыцягнуць увагу не толькі да яго неэфектыўнасці, але і да яго разбуральнасці. Без настойлівага пошуку шляхоў і магчымасцяў да збліжэння пазіцый па-за рамкамі абвінаваўчых рэзалюцый рашэння існых праблем не знайсці.

ЧУЛІ?

## Вучоным, якія паказваюць вынікі, змогуць павысіць зарплату ў тры разы

Аб гэтым паведаміў учора журналістам старшыня Прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук **Уладзімір Гусакоў** пасля нарады ў прэзідэнта Беларусі **Аляксандра Лукашэнкі**. *"Бюджэтныя арганізацыі даволі абмежаваны ў павышэнні заработнай платы, надбавак вучоным. Цяпер мы будзем мець магчымасць значна, да 300 працэнтаў, павышаць заработную плату вучоным: дактарам навук, прафесарам, старшым навуковым супрацоўнікам, вядучым навуковым супрацоўнікам"*, – сказаў Уладзімір Гусакоў.

Разам з тым ён звярнуў увагу, што павышаць зарплату будуць не ўсім пагалоўна, а тым вучоным, якія дасягнулі канкрэтных вынікаў у сваёй дзейнасці. *"Вучоныя саветы ў інстытутах, Прэзідыум Акадэміі навук будуць разглядаць гэтыя пытанні і прымаць рашэнні па павышэнні зарплаты. Але абавязкова павінны быць вынікі работы, іх укараненне і продаж найноўшай інавацыйнай прадукцыі"*, – падкрэсліў кіраўнік НАН.

(БЕЛТА.)



ДАЛУЧАЙЦЕСЯ!

*Як марыш здаўна
Пра лепшую долю,
Падпісвайся **НА**
"Народную Волю"!*

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ,
лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.**

***

Падпісацца на "Народную Волю" на першую палову 2018 года можна яшчэ сёння, заўтра і ў аўторак, 26 снежня. Не спазніцеся! Наша сіла – у сяброўстве з Вамі, шаноўныя чытачы! Разам будзем змагацца за лепшае жыццё!

УСМЕШКА МАСТАКА




Малюнак Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.

## З Літвы праз Беларусь у адной фуры везлі кармавыя дабаўкі для свіней і гашыш

Віцебская мытня затрымала 355,5 кілаграма гашышу. Наркотык вёз на фуры DAF праз пункт пропуску «Урбаны» грамадзянін Літвы. Згодна з дакументам, аўтапоезд вёз кармавыя дабаўкі для свіней.

– Аўтапоезд праверылі з дапамогай інспекцыйна-надглядната комплексу, сканаграма паказала, што ў пярэдняй частцы грузавога адсека абсталявана фальшсценка, – распавялі ў прэс-групе Віцебскай мытні. – Потым прычэп абследавалі кінолагі, і службовы сабака таксама адрэагаваў на наяўнасць у аўтамабілі падазронага грузу.

Калі пярэднюю сценку паўпрычэпа-рэфрыжэратара разабралі, знайшлі 92 брыкеты з шэра-зялёным рэчывам расліннага паходжання. Эксперты даследавалі знаходку і выявілі, што гэта гашыш – небяспечны наркотык. З пачатку года гэта самая буйная партыя гашышу, якую спрабавалі ўвезці ў ЕАЭС.

Кіроўцу затрымалі, у дачыненні да яго распачата крымінальная справа па ч.2 арт.328-1 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Гашыш мытнікі канфіскавалі.

СА СВЯТАМ!

## Маральная сіла народа павінна стаць дамінуючым азімутам нашай дзейнасці

**(З Пастырскага паслання арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча на Божае Нараджэнне 2017)**

«Дзіця нарадзілася нам; Сын дадзены нам; і ўлада спачыла на плячах у Яго, і дадуць імя Яму: Цудоўны Дарадчык, Бог Моцны, Спрадвечны Айцец, Князь Спакою» (Іс 9, 6). Гэтымі словамі прарок Ісая абвяшчае нараджэнне доўга чаканага Збаўцы як караля сусвету…

Свята Божага Нараджэння – гэта свята жыцця. У той жа час мы з'яўляемся сведкамі ўкаранення культуры смерці. Гэта найперш практыка забойства ва ўлонні маці ненароджанага жыцця, якая ўзаконена, распаўсюджваецца і вядзе да пагаршэння дэмаграфічнай сітуацыі з усімі вынікаючымі з гэтага негатыўнымі наступствамі. Да яе далучаецца ўсё яшчэ не вырашаная праблема смяротнага пакарання.

Усё гэта заклікае ўсіх нас, найперш бацькоў, урачоў і заканадаўцаў, дазволіць быць перамененымі бязмежнай Божай любоўю, якую мы сёння святкуем і якая вядзе да таямніцы жыцця як самага каштоўнага Божага дару.

Касцёл цвёрда стаіць на пазіцыях абароны жыцця ад яго зачацця аж да натуральнай смерці. Таму аборт з'яўляецца злачынствам супраць Божага дару жыцця, а смяротнае пакаранне непрымальным. Папа Францішак вучыць, што смяротнае пакаранне з'яўляецца знявагай недатыкальнасці жыцця і чалавечай годнасці. Божы закон «Не забівай» з'яўляецца абсалютным у адносінах як да нявінных, так і да вінаватых

Паводле Пантыфіка, смяротнае пакаранне з'яўляецца пройгрышам прававой дзяржавы, бо ў імя справядлівасці абавязвае да забойства. Акрамя гэтага, чалавечая сістэма правасуддзя не з'яўляецца дасканалай і можа памыляцца…



Сёлета гісторыя ўзгадвае 100-годдзе Кастрычніцкай рэвалюцыі, якая дала пачатак нябачанаму ў існаванні чалавецтва пераследу веры, адмовы ад маральных каштоўнасцяў і будаванню новай бязбожнай цывілізацыі. Што з гэтага выйшла, мы добра ведаем.

Ганенні на хрысціянства працягваюцца як у традыцыйных, так і ў новых, нават узаконеных, формах. … Свет імкнецца мінімізаваць уплыў рэлігіі на грамадскае жыццё. Аднак гісторыя ганенняў на Касцёл у Савецкім Саюзе сведчыць аб тым, што хаця можна абмежаваць людзей у практыцы іх веры, аднак яе нельга выключыць з жыцця і раней ці пазней яна адраджаецца, аб чым сведчыць ажыццяўленне фацімскіх аб'яўленняў, 100-годдзе якіх мы таксама ўспамінаем сёлета.

Маргіналізацыя рэлігіі ў публічнай сферы жыцця – гэта не прыкмета прагрэсу, але знак духоўнай дэградацыі.

З мэтай пазбегнуць такіх і падобных праблем мы павінны імкнуцца да стварэння моцнай хрысціянскай культуры ў нашых сем'ях, асяроддзі і ўсёй беларускай нацыі. Маральная сіла народа павінна стаць дамінуючым азімутам нашай дзейнасці. Пры гэтым трэба памятаць аб тым, што захаванне этычных прынцыпаў служыць дабру грамадства, а еўрапейскую цывілізацыю і яе гуманізм стварае Евангелле, а не парламенцкая большасць.

Дарагія браты і сёстры, людзі добрай волі!

Сардэчна віншую вас з радасным і збаўчым святам Нараджэння Хрыстова! Святам любові, жыцця, святла і надзеі!

Віншую ўсіх людзей добрай волі!

Жадаю вам, каб Езус сваёй ласкай штодзённа нараджаўся ў вашых сэрцах!

Няхай Каляды і надыходзячы Новы 2018 год будуць напоўнены духоўнай радасцю і Хрыстовым супакоем! Ты ж, наша Радзіма Беларусь, беражы Божы дар жыцця, умацоўвай узаемную любоў, не гасі святла Бэтлеемскай зоркі, каб быць шчаслівай і магутнай.

